# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1612) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 5 КРАСАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Наш колішні строй. Сялянка ў светла-шэрай свіце-сярмязе, аздобленай нашыўкамі з карычневага аксаміту і ўзорнымі прастрочкамі, з наміткай на галаве. Гэта ўбор з канца XIX стагоддзя з вёскі Брады каля Пружанаў, які належыць да ваўкавыска-камянецкага строю беларускага народнага адзення. Да гэтага строю належаць таксама колішнія народныя ўборы беларусаў Беласточчыны.

Фота М. Раманюка

## ЕХАЛІ ДА ЧУЖЫХ, А ТРАПІЛІ ДА РОДНЫХ

**(Размова з загадчыкам Кафедры беларускай мовы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце праф. Львом Шакуном).**

**Пытанне:** Вы з'яўляецеся загадчыкам Кафедры беларускай мовы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Што можаце сказаць аб спецыфіцы ўстановы, якой кіруеце?

**Адказ:** Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна ўзнік у 1921 годзе і з таго часу працуе ў ім Кафедра беларускай мовы. Яна адна з найстарэйшых універсітэцкіх кафедраў Зараз у ёй працуе 20 навуковых супрацоўнікаў, не лічачы аспірантаў і дапаможнага персаналу. Выдатнымі моваведамі Кафедры былі ў мінулым прафесары: П. Бузук, І. Воўк-Левановіч, У. Ломцеў. Пасля вайны Кафедру ўзначальваў заслужаны педагог М. Жыркевіч. Я загадваю Кафедрай з 1967 года. На ёй я вырас як вучоны і як педагог. Наша Кафедра разам з Кафедрай беларускай літаратуры ажыццяўляе выкладанне ўсіх дысцыплін беларусазнаўства: курс сучаснай беларускай мовы, курс гісторыі беларускай мовы, дыялекталогіі, стылістыкі, культуры мовы, методыкі мовы. Кіруе яна дыпломнымі работамі. Рыхтуе навуковую змену — аспірантаў. Штогод на Кафедры абараняюцца адна-дзве кандыдацкія дысертацыі. На Кафедры не раз павышалі кваліфікацыі навуковыя супрацоўнікі (стажоры) з іншых навуковых установ рэспублікі.

Адна з важных задач Кафедры — гэта стварэнне падручнікаў для вышэйшых і сярэдніх школ. Зараз на Кафедры заканчваецца падрыхтоўка цыкла навучальных дапаможнікаў і падручнікаў па ўсіх курсах беларускага мовазнаўства для універсітэтаў. Сярод іх курс сучаснай беларускай мовы ў чатырох кнігах — калектыўнага аўтарства „Гісторыя беларускай літа-

(Працяг на стар. 4)

### ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Абяцаў я, што сёння прадоўжу ўспаміны Генрыка Малышкі аб яго прымусовай экскурсіі пад бомбамі ў далёкі прыуральскі Урдмурцкі край. Аднак усё яшчэ я знаходжуся пад уражаннем сустрэчы з палкоўнікам **Рамуальдам Зайкоўскім,** які таксама ў чэрвені і ліпені 1941 года перамерыў гэты шлях: ад Беластока ў Друскенікі, а з Друскенікаў аж у Каракуліна, што над ракою Камаю.

— Рака там такая шырачэзная, — гаворыць ён, — што натвесну, калі вада разальецца, дык канца і краю не відаць, дарэмна шукаць вачыма другі бераг...

Сядзім у яго варшаўскім памяшканні, што на вуліцы Жульё-Кюры, далекавата ад цэнтра, але затое спакайней тут, не так дакучае гарадскі грукат.

## ПАЛКОЎНІК ЗАЙКОЎСКІ

Памяшканне, так сказаць, стандартнае, у „блёку", цеснаватае і даволі скромна абсталяванае. Едучы туды, я ўяўляў, што людзі на такіх адказных ды высокіх пасадах жывуць болей раскошна.

— Пакуль я на службе, дык няма часу думаць аб уласных рыгодах, — сказаў мне пан Рамуальд, калі мы неяк аб гэтым згаварыліся. — Дарэчы, я ніколі не прыдаваў ніякага значэння матэрыяльным праявам нашага грамадскага быту. Мая служба ў цэнтральных органах польскай контрразведкі наклала на мяне асаблівыя абавязкі. У гэтай службе ніхто не лічыць гадзін працы, даводзілася часта адлучацца ад дому. Але дзякуючы гэтаму некалькі здраднікаў, якія прадалі сваю айчыну за зялёныя паперкі, няслаўна закончылі сваю кар'еру.

— А як гэта было з Ежы Паўлоўскім? — адважыўся я запытаць, ведаючы, што гэта якраз Р. Зайкоўскі спыніў шпіёнскую дзейнасць праслаўленага калісьці спартсмена, алімпійскага чэмпіёна па фехтаванню шабляй.

— Як было з Паўлоўскім? — з ледзь заўважальнай усмешкай паўтарыў палкоўнік. — Звычайна. Усе разведкі свету пасылаюць сваіх наглядальнікаў на буйнейшыя спартыўныя гульні. Гэта агульнавядомая тайна. Паў-

(Працяг на стар. 6)




## АБ АШЧАДНАСЦІ

Аб абыякавых, а нават аб пагардлівых адносінах многіх людзей, асабліва маладых, да хлеба я ўжо пісаў. Пацвярджэнне такога стану рэчаў знаходзім на кожным амаль сметніку, дзе валяюцца часта не толькі паасобныя скібкі, але і цэлыя буханкі. Сёння, аднак, хачу выказацца на тэму электрычнага току. Як вядома, адно з вялікіх дасягненняў Народнай Польшчы — гэта тое, што электрычная сетка дайшла да найбольш аддаленых ад цэнтраў, так званых забітых вёсак. Вядома таксама і тое, што ток стаўся вялікім дабрадзействам усіх жыхароў вёсак.

Памятаю часы, калі зацягвалі электрычнасць. Некаторыя гаспадары вагаліся, ці ўвогуле праводзіць яе ў свае хаты і гаспадаркі. Гаварылі яны: „Мае дзяды і прадзеды жылі без электрыкі — пражыву і я". Аднак, у большасці выпадкаў, часта пад націскам гарадскіх дзяцей або суседзяў, пераламліваліся і электрычнасць зацягвалі. Я думаю, што калі б сёння хто-небудзь звярнуўся да тых гаспадароў, якія былі супраць, з прапановай ліквідацыі электрычнасці ў іх гаспадарках, дык нават калі б ім давалі суму ў сто разоў большую ад той, якую яны ўклалі калісьці, і то яны на ліквідацыю току не згадзіліся б. І гэта зразумела, бо карысць ад электрыкі для кожнага вядомая і ясная.

Трэба сказаць у гонар Народнай Польшчы і яшчэ адно — электрычнасць у нас танная. Не ведаю, ці па гэтай, ці па іншых прычынах, аднак амаль усе ў Польшчы да электрычнасці адносяцца нерацыянальна, неэканомна, бесталкова. На жаль, да такой катэгорыі людзей належу і я. Ужо не адзін раз злавіў я сябе на тым, што ў маёй двухпакаёвай кватэры тады, калі я сяджу ў адным пакоі, гарыць святло ў шасці месцах: у ваннай, у двух пунктах у калідоры, кухні і двух пакоях. Адзін раз сталася яшчэ горш. Выехаў я з хаты на цэлы тыдзень. Вярнуўся, і застаў у кухні святло. Колькі я змарнатравіў току за тыя сем сутак? Не ведаю, але напэўна многа. Добра так разве!

Нядаўна я спытаў у сваіх супрацоўнікаў па кафедры, як у іх кватэрах выглядае гэта справа. Усе адказалі, што вельмі часта выходзяць з ваннай, пакоя ці кухні, не выключыўшы святла. На жаль, нават у вёсцы, у сваіх Бандарах, я часта бачу, што ў паасобных хатах тараць лямпачкі ў тых пакоях, у якіх нікога актуальна няма. Калі ўзяць пад увагу, што такіх сітуацый па ўсёй краіне мільёны, дык атрымліваецца просты рахунак — мільёны кілават энергіі згарае без патрэбы і сэнсу. А трэба памятаць, што энергія ў нашай краіне амаль у ста працэнтах бярэцца з вугалю, якога не прыбывае, але з кожным годам змяншаецца, і ў сэнсе гістарычным не такі ўжо далёкі той дзень, калі яго цалкам не стане. Ну і што тады? Хтосьці скажа: атамная энергія. Справа, аднак, у тым, што паклады уранавай руды на свеце намнога меншыя, чым вугальныя. Вычарпаюцца і яны і што тады?

Няма сумненняў, што чалавецтва не астанецца без энергіі і чалавечы розум нешта прыдумае. Аднак гэта далёкая песенька. А трэба сказаць, што ўжо сёння некаторыя краіны перажываюць востры энергетычны крызіс. Сказанае датычыць, між іншым, Балгарыі, Румыніі і Югаславіі. У гэтых краінах штодзённа ды на многа гадзін, выключаюць ток, нават у такіх установах, як бальніцы.

(Працяг на стар. 6)




## МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ

5 і 6 сакавіка праходзіў у Мінску XXVIII з'езд камсамола Беларусі — паўтарамільённай арганізацыі беларускай моладзі. Як вынікае з даклада першага сакратара ЦК ЛКСМ В. Гурына на духоўным настроі беларускай моладзі негатыўна адбіліся элементы сацыяльнай карозіі, назіраюцца зніжэнне прэстыжу добрасумленнай працы, страта цікавасці да грамадскіх спраў, праяўленне палітычнай наіўнасці і скептыцызму. Павялічылася праслойка людзей, для якіх мэта жыцця звялася да спажывецтва, узмацнілася пранікненне ў маладзёжнае асяроддзе стэрэатыпаў буржуазнай масавай культуры. Ва ўзнікшай абстаноўцы не на вышыні аказаўся камсамол рэспублікі, — самакрытычна адзначыў В. Гурын. — Члены яго ЦК, работнікі і актывісты не ацанілі своечасова і аб'ектыўна тыя працэсы, якія адбываліся ў маладзёжным асяроддзі, не змаглі па-сапраўднаму пераламаць ход развіцця негатыўных тэндэнцый. Гэтаму перашкаджалі фарматворчасць і пустазвонства, якія параджалі мноства нікому непатрэбных папераў. Па іх, часта, і меркавалі аб эфектыўнасці работы камсамольскіх арганізацый. У выніку аслабла ўвага камсамола да вырашэння многіх важных для моладзі праблем, знізілася роля самадзейных асноў у яго рабоце, парушаліся прынцыпы ўнутрысаюзнай дэмакратыі.

Крытычнай была і дыскусія на з'ездзе. Як паведамляе „Звязда", многія дэлегаты выкарысталі „свабодны" мікрафон, выказаўшы сваю думку па абмеркаваных пытаннях, заўвагі і канкрэтныя прапановы проста з залы.

## НЕРАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПЕРАВОЗКІ

Адбылося пасяджэнне Камісіі па транспарту і сувязі Вярхоўнага Савета БССР. Адзначана, што Дзяржплан БССР, Дзяржснаб БССР, міністэрствы і ведамствы рэспублікі яшчэ недастаткова выкарыстоўваюць наяўныя магчымасці па далейшаму скарачэнню нерацыянальных перавозак грузаў. Сур'ёзныя недахопы дапускаюцца ў планаванні перавозак і каардынацыі работы розных відаў транспарту з улікам найменшых паліўна-энергетычных затрат. Маюць месца сустрэчныя перавозкі аднароднай прадукцыі, выпускаемай прадпрыемствамі Дзяржаграпрома БССР і Белкаапсаюза. Нерацыянальна праводзіцца транспарціроўка спажыўцам тэхнічных газаў. Дапускаюцца нерацыянальныя перавозкі цэглы, пясчана-гравійных сумесей і іншых грузаў. Транспартныя арганізацыі слаба праводзяць работу па эфектыўнаму выкарыстанню рухомага саставу і ўкараненню больш эканамічных форм перавозак.

## НА КАРЫСЦЬ ПАКУПНІКАМ

З году ў год паляпшаецца дабрабыт жыхароў Брэсцкага раёна, павялічваецца іх пакупніцкая здольнасць. Пастаянна расшыраецца ў раёне і гандлёвая сетка, што садзейнічае лепшаму задавальненню попыту насельніцтва на розныя тавары. Нядаўна новы склад-магазін будаўнічых матэрыялаў адкрыўся ў вёсцы Новыя Лушчыцы. Тут можна набыць сілікатную цэглу, піламатэрыялы, аконнае шкло і іншыя патрэбныя для будаўніцтва матэрыялы. У апошні час расчынілі дзверы новыя магазіны ў вёсках Нехалсты, Буякі і Вельямовічы. Сёлета пачнецца будаўніцтва сталовых у вёсках Чэрні і Матыкалы; прамтаварнага магазіна, сталовай і кулінарыі ў вёсцы Астрамечава.

## СПОРТ

■ У мінскім Палацы тэнісу прайшоў XVIII міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя. Роўна пятнаццаць гадоў назад А. Мядзведзь пакінуў вялікі спорт. Пакінуў пераможцам. Ён — трохразовы алімпійскі чэмпіён, семіразовы чэмпіён свету, дзевяціразовы пераможца першынстваў краіны. Звыш 150 барцоў з адзінаццаці краін свету з'ехаліся цяпер у Мінск, каб вызначыць уладальнікаў прызоў славутага беларускага асілка. У кожнай з дзесяці вагавых катэгорый паядынкі праходзілі востра і напружана. У большасці вагавых катэгорый тон задавала зборная СССР. Сярод пераможцаў турніра і прадстаўнікі зборнай Беларусі К. Абдулдаўдаў і В. Крэйдзіч. ■ У Віцебску на чэмпіянаце Беларусі ішоў адбор у зборную каманду рэспублікі на чэмпіянат СССР па спартыўнай акрабатыцы. Дасканала справілася са сваімі складанымі кампазіцыямі прызёр IX летняй спартакіяды народаў СССР Марына Вашкевіч з Гродна. У пяты раз яна заваявала званне чэмпіёнкі рэспублікі.




## ІЗГОІ ВА ЎЛАСНАЙ КРАІНЕ

Споўнілася 14 гадоў з моманту пачатку трагічных падзей у пасёлку Вундэд-Ні ў штаце Паўднёвая Дакота, калі індзейцы даведзеныя да адчаю самавольствам улад, расавай дыскрымінацыяй і галечай, узняліся на паўстанне. Яны закрылі ўваход на тэрыторыю рэзервацыі ўрадавым чыноўнікам і накіравалі ў Вашынгтон 20 асноўных патрабаванняў, настойваючы на прадстаўленні індзейцам элементарных чалавечых правоў і свабод, паляпшэнні ўмоў працы, а таксама прызнанні за імі правоў на землі продкаў. Расправа не прымусіла сябе доўга чакаць: на пасёлак, большую частку насельніцтва якога складалі жанчыны і дзеці, былі кінуты салдаты, паліцыя, агенты ФБР. Супраць індзейцаў, узброеных халоднай зброяй і паляўнічымі стрэльбамі, улады пусцілі танкі. Але толькі на 71-ы дзень паўстанцы спынілі супраціўленне. Гэтыя два месяцы сталі сведчаннем таго, што ў канцы нашага стагоддзя ўладу маючыя ў ЗША не хочуць адмаўляцца ад жудаснай формулы: „Добры індзеец — гэта мёртвы індзеец", абвешчанай у сярэдзіне мінулага стагоддзя і скрупулёзна ажыццяўляемай амерыканскім генералам Шэрыданам. Такая палітыка прывяла ўжо да таго, што з 10 мільёнаў індзейцаў, якія насялялі паўночнаамерыканскі кантынент да прыбыцця белых каланізатараў, цяпер засталося менш 800 тысяч чалавек, загнаных у рэзервацыі — на маленькія кавалачкі каменістай зямлі, акружаныя калючым дротам. Невыносныя ўмовы жыцця, бязвыхаднасць і адчай штурхаюць многіх карэнных жыхароў Амерыкі да самагубстваў: узровень самагубстваў у індзейцаў у тры разы вышэйшы, чым у сярэднім па краіне. Тыя ж, хто не жадае мірыцца з навязаным ім афіцыйнымі уладамі лёсам і спрабуе пратэставаць, становяцца ахвярамі жорсткага рэпрэсійна-карнага апарату: іх або фізічна знішчаюць, або асуджаюць на пакутлівую смерць у турмах.

## ФБР СОЧЫЦЬ ЗА СВЯШЧЭННІКАМІ

Федэральнае бюро расследаванняў ЗША было вымушана прызнаць, што больш двух дзесяцігоддзяў трымала „пад каўпаком" двух вядомых дзеячоў каталіцкай царквы ЗША — архіепіскапа Сіэтла Рэйманда Хандхаузена і епіскапа Дэтройта Томаса Гамблтана. Пра гэта паведаміў часопіс „Нэшнл католік рыпортэр". Рэдакцыі часопіса ўдалося атрымаць з архіва ФБР вытрымкі з дасье на гэтых рэлігійных дзеячаў. З іх вынікае, што Хандхаузен і Гамблтан былі ўзяты амерыканскай ахранкай пад нагляд толькі з-за іхніх палітычных перакананняў. Справа ў тым, што яны з часу агрэсіі ЗША ў Індакітаі актыўна ўдзельнічаюць у антываенным руху.

## „ХАЙЛЬ ГІТЛЕР"

Воклічамі „Хайль Гітлер" і выкінутай наперад у нацысцкім прывітанні рукой наваяўленыя „карычневыя" віталі свайго верхавода Міхаэля Кюнена, які зноў паўстаў перад гамбургскім зямельным судом па абвінавачанню ў нацысцкай прапагандзе. „Мы — нацыянал-сацыялісты і хочам імі застацца", — нахабна заявіў наваяўлены „фюрэр" у адказ на пытанне, ці не змяніў ён свае перакананні.




Савецкія песні любяць спяваць на Беласточчыне, таксама і ў іншых гарадах. У сёлетні Міжнародны жаночы дзень Бельскі дом культуры правёў раённы агляд савецкай песні. У аглядзе прымала ўдзел каля шасцідзесяці спевакоў, гэта значыць: васемнаццаць салістаў, дуэт, чатыры вакальна-інструментальныя калектывы. На ваяводскі агляд, між іншымі, заквааліфікаваліся: Эльжбета Рыжык і Юлія Радзіванюк з Тарашкевічаўскага ліцэя, Юстына Кардзюкевіч з ліцэя імя Т. Касцюшкі, Васіль Негерэвіч, Ірэна Врублеўская і Аня Чыжык з „Эльвы", Эльжбета Нікіцюк з Бельскага дома культуры, і тры калектывы: „Крынічка" з ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча, жаночы хор з Орлі і „Васілёчкі" з Бельскага дома культуры. Калектыў „Дзявочыя ноткі" спяваў беларускую песню і таксама заквааліфікавалі яго на той жа ваяводскі агляд.

14 сакавіка адбыўся ваяводскі агляд у тым жа Бельскім доме культуры. У глядзельную залу дома сыйшлося мноства народу. У ім прымала ўдзел каля ста асоб — дзевятнаццаць салістаў, тры дуэты, трыо, адзінаццаць калектываў (з Бельска, Гайнаўкі, Сямяціч, Беластока, Саколкі, Чаромхі). Вяла агляд Галена Скварчынская з Беластока. Журы агляду старшыняваў Януш Папай з беластоцкага „Польскага радыё". У журы былі: Леанід Бароўскі з пасольства СССР у Варшаве, Андрэй Туроўскі, русіст; Казімір Крулікоўскі, Віктар Новікаў, Крыстына Главацкая. У журы быў і госць з Літоўскай ССР, кампазітар Рымвідас Раціявіціус. Спяваліся савецкія песні — беларускія, рускія, украінскія (некаторыя з іх у польскіх перакладах). Пасвойму арыгінальна выступілі Анатоль Нічыпарук, Косцік Селевановіч (пры словах песні „сена маладое" адзін з іх вастрыў касу). Мікалай Ваўрыновіч пасвісцёлам пасвістваў пад салаўя. Спявалі з ім таксама Вадзік Вашчук, Юрка Харкевіч, Аляксандр Краўчук. Прыгожа акампаніявалі ім Сяргей Лукашук на скрыпцы, Лёнік Кудзін і Юзік Дэнізяк на кларнетах, Ігар Плютовіч і Міраслаў Грыка на мандалінах, Багуслаў Шульц на тамбурыне, Славік Васілюк на кантрабасе і Андрэй Нікіцюк на акардэоне. Калі праспявалі яны „Сена маладое" і „Прымакі", то публіка проста ашалела ад апладысментаў і доўга не пускала іх са сцэны.

Выступілі беластаччане. Вельмі радасна было чуць, што гараджане таксама любяць родную беларускую песню. Самымі дарослымі спевакамі былі Люба Гаўрылюк з Беластока і Юрка Налівайка з мястэчка Гарадок.

Спявалі пераважна беларускія песні. Гэта трэба адзначыць як станоўчую з'яву. Дагэтуль так не бывала. Песень было багата, яны не паўтараліся. Шмат новых, якія чуліся ўпершыню і слухалі іх, як адкрыццё нейкае. Энтузіязм бельскай публікі цяжка і апісаць: здавалася, што ад апладысментаў гмах завалiцца можа! ...Падобнае паўтарылася назаўтра, у час канцэрту лаўрэатаў агляду.

На Усепольскі агляд паедуць: Марыёля Прыходская з Гайнаўскага дома культуры, Эльжбета Нікіцюк з Бельскага дома культуры, тэрцэт БГКТ з Беластока. Прыходская — яна выступае і ў слаўных „Дубінах" — атрымала ўзнагароду начальніка горада Бельска і гэта была ўзнагарода за найлепшае выкананне песні. Узнагароду Таварыства сяброў Бельска атрымала Нікіцюк. Узнагарод і ўзнагароджаных было многа, гавару пра найважнейшыя.

На заканчэнне канцэрта выступілі цікавыя спевакі з Вільні: браты Вальдэмар і Альгіс Франконісы.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ГМІНА ГАЙНАЎКА — ВАРТАСЦЬ ПРАЦЫ

Вартасць грамадскіх пачынаў у гміне Гайнаўка за 1986 год склала 5 млн. 800 тыс. зл.

Падаем найважнейшыя чыновыя аб'екты: стражніца добраахвотнай пажарнай стражы ў Чыжыках, дарога з Махнатага ў Дубічы Асочныя, вясковыя святліцы ў Хітрай і Пасечніках Вялікіх, прыпынак ПКП у Хітрай, рамонт будынкаў на святліцы ў Ліпінах і Барку, пабудова школы ў Новым Корніне (яшчэ не закончаная).

Найбольш грамадскім чынам працавалі вёскі: (падаем вартасць пачыну на аднаго жыхара): Хітра — па 11000 зл., Дубічы Асочныя — 5800, Пасечнікі Вялікія — 5300, Ліпіны — 4800, Рэпіска і Махнатае па 1000 зл на жыхара. **(вв)**

Фота Г. Шварц



Так будавалі дарогу з Дубіч у Бельшчыну.



Новы будынак у Дубічах Асочных, у якім знайшлі месца крама і святліца.

лін ад тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Між іншым, і на гэтай аснове, Рада Дзяржавы ПНР скарыстала з канстытуцыйнага права памілавання і адмяніла далейшае выкананне судовага пакарання ў адносінах да Е. Паўлоўскага. Ён вярнуўся да сям'і і жыве зараз у Варшаве.

— Здараецца, што мы сустракаемся, — кажа былы афіцэр польскай контрразведкі, бо і Рамуальд Зайкоўскі таксама змяніў ужо месца працы. Цяпер ён працуе не ў Міністэрстве абароны, але ў Міністэрстве ўнутраных спраў, мае адказныя абавязкі ў кабінеце міністра.

— Мая дзейнасць на пасту вонкавай і ўнутранай бяспекі нашай краіны, — кажа ён, — апісана ў шматлікіх рэпартажах з судовых працэсаў розных шпіёнаў, а ў мінулым годзе пісьменнік Роберт Пунт выдаў кніжку „Вольная амерыканка", у якой даволі падрабязна апісвае лёс Е. Паўлоўскага ды іншых шпіёнаў.

Я пазнаёміўся з гэтай кніжкай. Падарыла яе мне родная сястра Рамуальда Зайкоўскага, якая жыве ў Беластоку. Гэта дакументальная аповесць. Пачынаецца яна сцэнай выканання смяротнага прысуду на адным, асабліва шкодным шпіёне, якога таксама выкрылі падуладныя палкоўніка Зайкоўскага, а канчаецца 25-гадовым прысудам на іншым яшчэ супрацоўніку ЦРУ. У эпілогу Роберт Пунт (гэта сын Ежы Путрамента) апісвае цырымонію абмену разведчыкаў на граніцы ГДР і Заходняга Берліна, у час якой Е. Паўлоўскі абараніў свой гонар. Кніжку выдала Гданьскае аддзяленне КАВ...

**Ніна Мікалаеўна,** жонка Рамуальда Зайкоўскага, нарыхтавала нам чаю і піражнага, гаспадар паставіў бутэлькі з замежнымі напіткамі і пасля дзесяці хвілін уступнай рэкамендацыі здавалася мне, што мы знаёмы ўжо даўным-даўно.

Дарэчы, найперш я адрэкамендаваўся гаспадыні, бо ён, Рамуальд Зайкоўскі, быў яшчэ заняты сваімі службовымі абавязкамі ў Міністэрстве ўнутраных спраў і па тэлефону прасіў, каб я крыху пачакаў. Тады маю ўвагу звярнуў вельмі ж „беластоцкі" акцэнт яго жонкі. Дык я адважыўся запытаць, адкуль яна родам, з якой вёскі? І аказалася, што я зусім памыліўся. Ніна Мікалаеўна не вясковая. Яна — гараджанка, са сталіцы, чыстакроўная масквічка. Гісторыя зусім звычайная, якая часта і зараз здараецца. Проста Рамуальд Зайкоўскі папаўняў свае веды ў адной з маскоўскіх вышэйшых навучальных устаноў па ваенным прававодстве і закахаўся, на шчасце, з узаемнасцю. Многія гады супольных турбот і радасцей наснавалі яны на свой лёс, вырасцілі дзяцей, дачакаліся ўнукаў, срэбра расцярушылася ў валасах...

— Нарадзіўся я ў Заблудаве, што каля Беластока, 2 лютага 1928 года, — распачаў мой размоўца Рамуальд Зайкоўскі свае ўспаміны. — Жылі мы тады на вуліцы Беластоцкай. Зямлі ў нас не было. Бацька наймаўся да кожнай працы, якая траплялася. Брукаваў вуліцы, будаваў хлявы і дамы. Адным словам, жылі мы беднавата. У 1941 годзе, калі Заблудаў, як вядома, знаходзіўся пад Савецкай уладай, я быў вучнем IV класа. Школа лічылася беларускай, але вучылі нас па-польску. Толькі даводзілася хадзіць на ўрокі па беларускай мове. Гэта я добра памятаю. Побач гэтай школы была ў Заблудаве яшчэ руская дзесяцігодка...

Рамуальд належаў да піянерскай арганізацыі і быў выдатнікам у вучобе. Таму накіравалі яго на месячны лагер у Друскеніках.

— Пяць вучняў тады паехала з заблудаўскіх школ, — кажа пан Рамуальд. — Двое яўрэйскіх дзяцей: Харашоўскі і Піня Лендэль, беларуская Рая Кардаш і адна руская дзяўчынка, дачка афіцэра Чырвонай Арміі, капітана або маёра, яе прозвішча зараз не памятаю, хаця яна таксама разам з намі апынулася ў каракулінскім дзетдоме...

Пачынаўся чэрвень 1941 года. З радасцю віталі яны тыя канікулы. Ніхто з іх не падазраваў, што здарыцца няшчасце. Аб гэтым, аднак, наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## У ШКОЛЕ Ў БАРЫСАЎЦЫ

### АБ ПЕСНІ

Школьны агляд „Беларуская песня-87“ у школе ў Барысаўцы прайшоў вельмі цікава. У школу прыйшлі дзеці і настаўнікі. Усе тут любяць родную песню.

Агляд меў высокі ўзровень і быў дасканала падрыхтаваны і праведзены настаўніцай мгр Таісай Хіліманюк.

У школьным аглядзе прыняло ўдзел шэсць вучняў і дашкольны клас. Усе адчувалі радасць ад супольнай творчасці, ад магчымасці паказаць свой талент і працу. І прыемна, радасна было паглядзець на спевакоў!

Кожны ўдзельнік падрыхтаваў дзве песні, а ў выніку, гляньце, якое багацце выйшла! Гэта была не толькі дэманстрацыя песні і яе выканаўцаў, але і народных беларускіх убораў з багаццем вышыўкі. Цешылі вочы блузкі, вышываныя бабулямі, таксама багата вышываныя ручнікі, развешаныя на сцэне.

Камісія ў складзе Таіса Хіліманюк, Валянціна Дзмітрук, Ірына Гацута і Андрэй Ялоза ацанілі выканаўцаў. Два першыя месцы былі прызнаны: вучаніцы восьмага класа — Рэнаце Асіпюк за песні „Нёман“ і „Колькі ў небе звёзд“ і вучню чацвёртага класа Артуру Буйноўскаму за песні „Камар“ і „Радзіма“. Другое месца заняла Дарота Франкоўская за песні „Радзіма“ і „Беласточчына“, а трэцыя — Мажэна Ялоза за „Беласточчыну“ і „Галю“, Івона Хіліманюк за „Ранняю парою“ і „Мінскі вальс“, і Ян Каролька за „Беласточчыну“ і „Хай заўжды будзе сонца“. І спецыяльную ўзнагароду атрымалі дашкольныя дзеткі, якія праспявалі „Саўка ды Грышка“.



Лаўрэаты школьнага конкурсу „Беларуская песня-87“.



Малюнкі і кветкі нашым настаўнікам.

### СВЯТА ЖАНЧЫН

З нагоды Міжнароднага дня жанчын у школе адбылася сустрэча. На ўрачыстасці прысутнічалі настаўнікі, вучні, старшыня бацькоўскага камітэта Анна Врублеўская, мясцовая прадаўшчыца Галіна Паскробка і іншыя. Сустрэча была належна падрыхтавана. На пачатку выступіла вучаніца чацвёртага класа Мажэна Ялоза з дакладам аб 8 сакавіка. Потым вучні другога і чацвёртага класаў спявалі песні і паказвалі сцэнку „Важная нарада“, якую падрыхтавала Ірына Гацута.

Усім прысутным жанчынам вучні ўручылі малюнкі і кветкі. Сустрэча закончылася выступленнем дырэктара школы Аліны Грыгарук, якая падзякавала настаўнікам і дзецям за мілую ўрачыстасць.

**Андрэй Ялоза**
**настаўнік бел. мовы**
**фота Валянціна Кандрацюка**

## САВЯНЯТЫ

Сава жыла ў недабудаваным доме на ўскраіне гарадка. Гаспадара ўзялі на фронт, ён загінуў у першыя дні вайны, і дом стаяў з забітымі вокнамі.

Днём сава не паказвалася. Вылятала пад вечар. Нярэдка сядала на дах і з вышыні аглядала наваколле.

Потым у яе паявіліся птушаняты. Мы, хлапчукі, залезлі на гару і знайшлі іх у падстрэшшы. Некалькі разоў прыходзілі сюды, але савянят не чапалі.

Аднойчы нехта прапанаваў:

— Давайце забяром іх і самі гадаваць будзем.

Савянят прынеслі ў наш двор. Пасадзілі ў шпакоўню. Каб каты не з'елі іх, яе, на тычцы, прывязалі да плота. Здымем, пакормім савянят — і зноў прывяжам.

Кармілі ўсім. Бывала, парэжам мяса на кавалачкі і закідваем у прагна разяўленыя раты.



Савяняты былі ўжо ў пуху. Стараючыся схапіць ежу, падскаквалі, памагаючы сабе крыламі. Аднак больш за ўсё запомніліся мне іх вочы, зеленавата-жоўтыя, круглыя, нібы здзіўленыя. І па-дзіцячаму бяскрыўдныя.

Доўга савяняты не пражылі. Іх, маленькіх, нельга карміць салёным мясам.

З гэтага часу мінула каля сарака гадоў. А я не-не ды і ўспомню тых бездапаможных савянят, якіх мы забралі маці і загубілі. Часцей успамінаю тады, калі бачу ці чую, як людзі бесцырымонна ўмешваюцца ў жыццё жывёл, нясуць ім зло, а то і смерць.

**Мікола Дзелянкоўскі**

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Мікола Чарняўскі

### ВАЯЎНІЧЫ ВЕРАБЕЙ

Ледзь ваяка
Прачынаўся
Піск і вэрхал
Пачынаўся:
Ані разу
Ля шпакоўні
Праляцець
Не мог спакойна.

Як суседзяў абмінуць,
Не ўдражніць,
Не казытнуць?

Галка ў домік
Дзеўбане:
— Што, забылі пра мяне?
Домік будзе мой:
З сям'ёю
Я займу яго
Зімою...

Не хацеў ён
Міру, зладу —
І бяду наклікаў,
Звяду:
Ўся шпачыная сям'я
Падлавіла вераб'я.

Бачыў сам я
Ў гэта ранне
Іх сутычку,
Іх змаганне:
З вераб'я,
Як ні люцеў, —
Толькі пыл
Ды пух ляцеў!

Знікла храбрасць
У „ваякі“
Зразу,
З першай жа атакі.
Сам, напэўна,
Быў не рады —
Ледзьве вырваўся
Са звады!

Ад шпачынай чарады,
Смелай,
Дружнай, як заўжды,
Шэры кінуўся наўпрост,
Паказаў ім толькі
Хвост!

Сеўшы зводдаль
На галінку,
Пагайдаўся мо хвілінку
І — пра ўсё
Забыўся, мусіць,
Стаў грaзіцца:
— Р-р-разбя-р-р-руся!..

Кінь, дурненькі,
Не храбрыся,
Лепш з суседзьмі
Памірыся!



## АФІНА І АРХАНА
### Міфалагічная байка

Прачнуўшыся, як і звычайна, рана,
Ткаць кросны пачала Архана.
Фантазія лунала у прасторы,
На палатне ж зайгралі цуд-узоры.
Архане галаву гэта ўскружыла.
І вось ткачыха гучна заявіла,
Што ўсе сакрэты справы ведае яна:
Маўляў, нідзе майстрыцы лепшае няма
У Грэцыі ва ўсёй, не толькі ў Афінах...
— А Зеўсава дачка — славутая
Афіна? —
Ёй задалі пытанне.
— Якое можа быць тут параўнанне?! —
Ускліхнула зняважліва Архана. —
З маім майстэрствам ёй цягацца рана!
За пояс я усіх пазатыкаю!
І першай на спаборніцтва Афіну
выклікаю!
Зайграла самалюбства у багіні —
І выклік прыняла Афіна.
Дзён некалькі працягвалася ткацтва.
Афіна выткала выдатны твор
мастацтва.
Перамагла ў спаборніцтве Афіна.
— Ой, не сцярплю такога, я загіну. —
Крычала ў роспачы Архана.
— Не, паміраць табе яшчэ зарана, —
Багіня так прагаварыла,
Архану ў павука ператварыла,
Каб тая век свой ткала
І ўрок, што атрымала,
Не забывала.

Няхай паслужыць гэта байка
Навукай добраю зазнайкам.

**Уладзімір Правасуд**

## У ВЁСЦЫ ЖЫВУЦЬ...

— У вёсцы прыгожа, цікава, — дзеліцца ўражаннямі з выхавацелькай дзіцячага сада дзяўчынка Надзейка. — Там казляняткі жывуць. І качкі.

— І цыпляты, — далучаюцца да яе іншыя дзеці, якім таксама хочацца падзяліцца з выхавацелькай сваімі ведамі.

— І свінкі...

— І ластаўкі...

— І курачкі з пеўнікамі...

— І кароўкі...

— А яшчэ хто там жыве? — заахвочвае выхавацелька.

— Дзядулі і бабулі! — хорам адказвае малеча.



# НІЎКА



### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ




Што і казаць, вынаходства — рэч добрая. Вось калі б яшчэ яго ў пару ўкараніць! Наш вынаходца, напрыклад, за час „пагадненняў" і „утрасак" зусім забыў, якія грузы падымуцца, калі ён крутане ручку. Дапамажыце яму!

## ЧЫЯ КАРОВА ЛЕПШАЯ

Двое прывялі на кірмаш кароў прадаваць.

— Во, у мяне карова дык карова, — кажа адзін.

— Што за яна? — пытае другі.

— Па трынаццаць літраў малака дае.

— Знайшоў чым хваліцца! Мая і на дваццаць не скупіцца.

— А мая жонка ад каровы пасля ацёлу па дваццаць чатыры нацыркае.

— Цьфу! Летам мая да дваццаці сямі даганяе.

— К-хы, у ліпені? А трыццаць не хацеў ад маёй летам?

— А што яна дае?

— Як — што? Малако!

— Я так і думаў.

— А твая?

— Мая, даражэнькі, смятанку.

## НАШЫ ДЗЕЦІ

— Бабуля, хочаш цукерку? — пытае Юля.

— Дзякуй, унучанька; не хачу.

Хвіліну памаўчаўшы, Юля гаворыць:

— А спытай цяпер у мяне, можа, я хачу.

Завядзі сабе агарод, а то мне няма куды кінуць камень?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пасля цяжкай дарогі падарожнік спыніўся ў невялікім атэлі і звярнуўся да афіцыянта:

— Прынясіце мне пару яец усмятку, шклянку чорнай кавы і скажыце што-небудзь прыемнае.

Афіцыянт хутка выканаў заказ і, схіліўшыся над вухам кліента, прашаптаў:

— Вы прасілі некалькі добрых слоў, сэр? Дык вось не трэба есці гэтыя яйцы.

*

У кабінеце дырэктар гаворыць сакратарцы:

— Хелен, пайдзіце паглядзіце, чаму містэр Хары так раве.

— Мсье, ён гаворыць з Аўстраліяй.

— Ён што, не можа для гэтага пакарыстацца тэлефонам?





— Магчыма, сіньёр Росі, нам варта перастаць есці так многа моркавы?

## З „Весніка Задрыпонія"

### У ТЭАТРЫ

Раззлаваўшыся на адсутнасць гледачоў у зале, артыст Вышчаркевіч, іграючы ў спектаклі, так праўдзіва ўгнеўваўся і грукнуў дзвярыма, што тэатр абваліўся. Калі ён вылез з-пад абломкаў, сустрэладзяне сустрэлі яго авацыяй.

### СПОРТ

Падчас скачка спартсмена Сіганюка ўкусіў чмель. І ён ескочыў яшчэ далей.



## ДАШЛАВАЎСЯ

Купілі муж і жонка бензапілку. Селі ля хаты, муж чытае інструкцыю:

„Бензапілка можа за сем гадзін нарэзаць дзесяць кубаметраў дроў".

Усталі яны раненька і давай пілаваць. Пілавалі да самага вечара. Аднак напілавалі толькі тры кубаметры.

— Нешта тут не тое, — кажа муж, беручы ў рукі інструкцыю. — Ану, уважлівей прачытаем.

Прачытаў. Ды як крыкне:

— Жонка, дык яна яшчэ і заводзіцца?

## ЯК РАСПАЗНАЕШ

Пытае суседка Алену:

— Як ты адрозніваеш сваіх братоў-блізнюкоў?

— А вельмі проста: адзін умее лічыць да пяцідзесяці, а другі — да ста.

## ПЕРАСТРАХОЎШЧЫК

— Што можаце сказаць у сваю абарону? — пытае суддзя ў падсуднага задрыпанца, які абвінавачваецца ў крадзяжы аўтамабіля.

— Высокі суд, я быў такі п'яны, што не рызыкаваў ехаць на сваёй машыне.

З суседскага агародчыка.




# Курёзы

## СУПЕРЗЛАДЗЕІ

Дзёрзкае абрабаванне было зроблена ў Лісабоне на міжнароднай выстаўцы электроннай апаратуры, якая праходзіла тут. Яе арганізатарам не дапамагла нават хітрамудрая сістэма „электронных вартаўнікоў". У рэкламных мэтах яна была ўстаноўлена на дзвярах · памяшканняў як „найлепшы сродак барацьбы супраць грабежнікаў". Зладзеі, трапіўшы ў будынак праз адзін з запасных уваходаў, укралі электронную апаратуру на буйную суму.

## ЭПІДЭМІЯ ВІНАВАТА?

Эпідэмія грыпу, якая скасіла амаль усіх ігракоў зборнай Партугаліі па футболу, стала галоўнай прычынай нашага паражэння ў адборачным матчы чэмпіяната Еўропы ад каманды Італіі (італьянцы перамаглі — 1:0), сказаў журналістам пасля матча ўрач партугальскіх футбалістаў Камача Віера.

Толькі напярэдадні сустрэчы сабраліся разам футбалісты зборнай. Слабыя былі варатар Зебету, нападаючы Мануэль Фернандэс, паўабаронца Аду, абаронца Альвару. А замяніць іх не было кім. Пасля заканчэння чэмпіяната свету кіраўніцтва партугальскага футбола адхіліла ад міжнародных матчаў усіх, хто ездзіў у Мексіку.




**Маленькіх людзей няма, проста ёсць людзі, якія не патрапілі разагнуцца ў паясніцы.**